*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 26(411)** **30 ЧЭРВЕНЯ 1999 г.**

# Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны 10 гадоў

## Святкаванне 10-годдзя ТБМ

27 чэрвеня у Менску прайшлі ўрачыстасці з нагоды 10-х угодкаў заснавання Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

А 12-й гадзіне пачалося ўрачыстае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ. Рада пачалася віншаваннем сябра рады ксяндза Уладзіслава Завальнюка з юбілеем. Затым з нагоды 10-годдзя ТБМ кветкі былі ўручаны першаму старшыню ТБМ Нілу Гілевічу і аднаму з першых рэдактараў "Нашага слова" Эрнэсту Ялугіну. Было зачытана віншаванне старшыні БНФ Зянона Пазьняка Таварыству беларускай мовы з нагоды 10-цігоддзя.На радзе былі разгледжаны і рабочыя пытанні:

*1. Рэгістрацыя і перарэгістрацыя першасных структураў ТБМ.*

*2. Праца камісій ТБМ.*

*3. Аб правядзенні Берасцейскай абласной канфе-рэнцыі ТБМ.*

*4. Віншаванне газеты "Беларуская маладзёжная". (Газеце 5 гадоў).*

*5. Інфармацыя аб падпісцы на газету "Наша слова".*

*6. Аб устанаўленні даты чарговай Рады.*

Рашэнні Рады будуць надрукаваны ў наступных нумарах.

З 13 гадзін пачалася святочная праграма.

У Кафедральным саборы Менска з дазволу мітрапаліта Філарэта адбылося набажэнства за беларускую мову, якое адправіў айцец Сергій, настаяцель Петрапаўлаўскай царквы. Такія ж набажэнствы прайшлі ў Петрапаўлаўскай царкве, а таксама ў Жыровіцкім манастыры і ў іншых праваслаўных храмах.

26 чэрвеня набажэнствы за беларускую мову прайшлі ў мячэцях беларускіх татараў, для якіх беларуская мова з'яўляецца роднай.

А 16-й гадзіне ў дольнай зале Чырвонага касцёла пачалася ўрачыстая імпрэза і мастацкая частка, якую склалі выступы беларускіх паэтаў і музычных гуртоў  А ў17.30 у касцёле святых Сымона і Алены (Чырвоным касцёле) пачалася імша за беларускую мову, якую адправіў ксёндз Уладзіслаў Завальнюк.

Набажэнствы за беларускую мову і гэты дзень таксама праведзены ў многіх храмах Каталіцкай, Праваслаўнай і Пратэстанскіх цэркваў у розных гарадах Беларусі.

***Алесь Гурыновіч.***

### Таварыству Беларускай мовы Старшыні ТБМ А. Трусаву

Віншую галоўную грамадскую арганізацыю Беларусі - Таварыства Беларускаї Мовы- з дзесятымі ўгодкамі працы і заснавання. Галоўную - бо пакуль жыве беларуская мова - жыве Беларускі Народ.

Ніякае нацыянальнае дзеянне, ніякі грамадскі чын і ніякая палітыка не можа абмінуць пытання аб беларускай мове. Калі ва ўмовах этнацыду нехта не абараняе мову, але клянецца за Беларусь - няма ў ім праўды. Беларуская мова- гэта тое, што вызначае сутнасць, змест і аблічча ўсяго. Тут няма месца для дыскусіяў, але шмат для працы. Калі б паўсюдна адрадзілася беларуская мова - скончыўся б і акупацыйны рэжым.

Пазітыўная праца арганізацыі, якая спецыяльна ахоўвае, шануе і абараняе беларускую мову, патрэбная заўсёды і ва ўсе часы. Але асаблівая місія кладзецца на яе плечы ў перыяд змагання за дзяржаўнае і нацыянальнае існаванне.

Хачу асабліва падкрэсліць гэтую вашу змагарную і асветніцкую місію ў цяперашні час.

Жадаю вам моцнасці і шчыльных радоў, цвёрдасці крокаў і дарогі, што вядзе беларускі народ на вольны і светлы прастор.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", сябра ТБМ.***
26 чэрвеня 1999 года

## Пікет за беларускую мову

29 чэрвеня з 17 – 19 гадзін у Міхайлаўскім скверы, які знаходзіцца ў трохкутніку паміж пл.Незалежнасці, ст.Дынама і Чыгуначным вакзалам адбыўся пікет, арганізаваны Таварыствам беларускай мовы. Гэта першае такога роду мерапрыемства, на якое Менскі гарвыканкам даў дазвол пасля трагедыі на Нямізе. Пікет ладзіцца за захаванне беларускамоўнай адукацыі, за стварэнне беларускамоўнага універсітэта, за захаванне назвы праспекта імя Францішка Скарыны, а таксама супраць візуальнай русіфікацыі Беларусі і за захаванне 9-х беларускіх класаў у 115 і 180 сярэдніх школах г. Менска, якія знаходзяцца пад пагрозай расфармавання.

На момант выхаду газеты падрабязнасці правядзення пікета нам не вядомы, таму пра гэта ў наступным нумары.

***А.Гурыновіч.***

## Беларуская мова ў школах і садках г.Менска

***На запыт ТБМ упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама даслала інфармацыю аб наяўнасці беларускамоўных дзіцячых садкоў і школ у кожным раёне горада Менска.***

***Падаем яе поўны змест без правак і скарачэнняў.***

У 1998/99 навучальным годзе статус беларускамоўных захавалі 11 школ:

Заводскі р-н – 2 /СШ № 68, гімназія № 111/.
Кастрычніцкі р-н – 2/СШ № 11, СШ №89./
Ленінскі р-н `- 1 /СШ № 2/.
Маскоўскі р-н – 1 /СШ № 60 /.
Партызанскі р-н – 1 / СШ № 72/.
~~Першамайскі р-н – 2 / гімназія № 9, СШ № 190/.~~
Фрунзенскі р-н - 1 /гімназія № 4/.
Цэнтральны р-н – 1 /мастацкая школа – ліцэй № 26/.

У вышэйназваных школах, пачынаючы з падрыхтоўчага класа і да старэйшых, навучальна-выхаваўчы працэс цалкам вядзецца на беларускай мове. Напрыклад, у СШ №2 да 7 класа, у СШ № 63, № 11, № 72 да 8 класа, у гімназіі №4, школе – ліцэі № 26 да 9 класа, у гімназіі № 111, СШ № 89, гімназіі № 9, СШ № 190 да 10 класа.

Апрача беларускамоўных школ, у 119 сярэдніх школах з рускай мовай навучання адкрыта 1236 беларускамоўных класаў. Была захавана значная колькасць такіх класаў з няпоўнай напаўняльнасцю, што пярэчыць рашэнню Мінгарвыканкама № 572 ад 10.07.97г. "Аб мерапрыемствах па эканоміі бюджэтных і пазабюджэтных сродкаў у 1997 годзе", згодна якога класы пачатковай школы павінны адкрывацца пры напаўняльнасці не меней 25 чалавек, а класы сярэдняй і старэйшай школы – не меней 30 чалавек.

З мэтай захавання сеткі класаў з беларускай мовай навучання, органы адукацыі, кіраўніцтва школ, педагагічныя калектывы напярэдадні навучальнага года праводзяць растлумачальную работу сярод бацькоў вучняў беларускіх класаў.

Для таго, каб забяспечыць пераемнасць у вучэбна-выхаваўчым працэсе, у горадзе функцыянуе 13 беларускамоўных садкоў, 154 беларускія групы. Па раёнах гэта выглядае наступным чынам:

| Раёны | дз/у | групы | тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|
| Заводскі | 3/№443,277,202/ | 18 | 246-53-40 |
| Кастрычніцкі | 1/№287/ | 52 | 224-40-68 |
| Ленінскі | 5/№47,299,374,446,454/ | 14 | 221-83-16 |
| Маскоўскі | - | 15 | 270-39-71 |
| Партызанскі | 3/№69,114,457/ | 3 | 236-90-71 |
| Першамайскі | 1/№539/ | 21 | 285-77-79 |
| Савецкі | - | 24 | 234-91-69 |
| Фрузенскі | - | 7 | 254-72-81 |
| Цэнтральны | - | 4 | 284-71-22 |

Начальнік упраўлення Г.А.Пятровіч
Новікава 227-39-53

## Справаздачная канферэнцыя Віцебскай гарадской арганізацыі ТБМ

22 чэрвеня ў Віцебску адбылася чарговая справаздачна-выбарная канферэнцыя Віцебскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Паседжанне распачалося справаздачай кіраўніка гарадской рады Валянціна Арлова. Ён коратка апісаў сітуацыю з дзяржаўнай беларускай мовай у горадзе. Высновы? Не новыя і зусім не суцяшальныя. Занепад нацыянальнай мовы імклівапрацягваецца. Прыклады? Калі да сумна вядомага рэферэндуму 1995 года ў Віцебску было 6% беларуска-моўных вучняў ад агульнай колькасці школьнікаў, то зараз усяго толькі 2,4%. Ва ўсіх сферах грамадства праяўляецца дыскрымінацыя мовы. Любыя выступы ў абарону беларускае мовы ўладамі ігнаруюцца.

Але і ў гэтых складаных варунках прыхільнікі роднай мовы не разгубіліся. ТБМ у Віцебску пасля перыяду пэўнага застою актывізавалася. У арганізацыю пачалі ісці новыя людзі. За мінулыя два гады лічба суполак вырасла з 7 да 13. Колькасць віцебскіх сяброў Таварыства беларускай мовы павялічылася болей, чым у 2,5 разы. Аднак, несумненна, праблемаў у сяброў Таварыства хапае. На думку асобных чальцоў ТБМ, назіраецца не надта добрая тэндэнцыя. Гарадская рада часцяком замыкаецца ў сваёй дзейнасці на ўласных паседжаннях, "не ідзе ў народ". Некаторыя сябры Таварыства занадта пасіўныя. Прагучала прапанова пашыраць кола людзей, ахопленых мерапрыемствамі ТБМ. Але не зважаючы на крытычныя моманты, была дадзена здавальняльная ацэнка працы рады.

Выбары пацвердзілі высокі давер да кіраўніцтва мясцовай арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Старшынём рады быў аднагалосна абраны Валянцін Арлоў. У складзе гарадской рады адбыліся нязначныя змены.

***Міхась Долгін, Юрась Сцяпанаў,***
***інфармацыйны аддзел***
***Рэсурснага цэнтра "Згода" (Віцебск).***

### Лідскія рады ТБШ і ТБМ імя Ф.Скарыны ладзяць для вучняў беларускамоўных школаў Лідчыны:

1. Літаратурныя чытанні да дня нараджэння Я.Купалы — 7 ліпеня 1999г.
2. Конкурс беларускага верша — верасень 1999 г.
3. Літаратурныя чытанні да дня нараджэння М.Багдановіча — 9 снежня 1999г.
4. Конкурс беларускай песні — люты 2000г.

Для удзельнікаў будуць арганізаваны вандроўкі ў Навагрудак, Мір, Нясвіж, Полацк, Львоў, Вільню і інш.

Пэўная частка месцаў будзе выдзелена для дзяцей з маламаёмасных і шматдзетных сем'яў і выхаванцаў Лідскага дзіцячага дому.

По даведкі звяртацца на тэл. 5-33-42 у г. Лідзе.



№ 26(411) 30 ЧЭРВЕНЯ 1999 г. наша слова

# "Дыягназ: беларус"

У газеце "Навіны" за 8 чэрвеня быў надрукаваны артыкул "Дыягназ беларус"? У ім распавядалася, што ў Гомельскім дзіцячым садку "Верасок" 5-гадоваму Францішку які выхоўваецца ў беларускамоўным асяроддзі, сыну вядомай беларускай паэткі і спявачкі Вальжыны Цярэшчанка-Яўсеенкі з-за кепскага ведання расейскай мовы быў настаўлены дыягназ – запаволенае псіхічнае развіццё.

Каб высветліць сітуацыю я патэлефанаваў у Гомель маці Францішка, а таксама загадчыцы д/с сп. Кузміной і лагапеду Наталлі Прымаковай. Н. Прымакова і сп.Кузміна казалі прыкладна адно і тое ж. "У нас двуязычие, русский д/с. Белорусский язык мы знаем, но говорить на нём не желаем, мы возмущены статьёй в "Навінах" і г.д.

У размове з Вальжынай я высветліў, што дыягназ быў настаўлены без ведама і з парушэннямі ўстаноўленага парадку прыкладна ў траўні, улетку 1998 г., прыйшоўшая пасля Н.Прымакова фактычна надцвердзіла яго. Францішак быў пераведзены у сярэднюю лагапедычную групу дзе дзеці акрамя лагапедычных дыягназаў мелі тыя ці іншыя адхіленні ў псіхічным развіцці. На пытанне Вальжыны да Н. Прымаковай – на якой мове адбывалася тэставанне апошняя ёй заявіла – "Он не знает ни одной русской сказки. Не знает названий посуды, даже не знает слова "кастрюля". Калі Н. Прымакова і сп. Кузміна казалі, што ведаюць бел.мову, на маю прапанову ў размове са мной, а я размаўляў па-беларуску, сказаць хоць пару сказаў па беларуску была катэгарычная адмова. Але ці ж можна педагогу адмаўляць у гэтым 5-гадоваму дзіцяці, якое кепска ведае расейскую мову?

Вальжына сказала, што лагапедам было зусім не улічана беларускае маўленне дзіцяці, калі б лагапед размаўляла з Франакам па беларуску, такога б дыягназу не было б.

Дарэчы, наконт дыягназу для лагапеда Н. Прымаковай і загадчыцы сп. Кузьміной. Закон РБ аб мовах арт.4. "Абавязак кіраўнікоў і іншых работнікаў дзяржаўных органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў і ўстаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў. Так, што ў дадзеным выпадку неваладанне беларускай мовай азначае проста прафнепрыдатнасць, якую недаравальна кампенсаваць за кошт 5-цігадовага дзіцяці, якое дарэчы з'яўляецца сапраўды нармальным беларускім дзіцём, хаця б таму, што размаўляе на роднай мове, як гэта ёсць у любой нармальнай краіне.

*Алесь Гурыновіч*

# ЯК СЛОВА ХОЧУЦЬ ЗАБАРАНІЦЬ

Час ад часу удаецца паслухаць па беларускім радыё праграму "Размова па-сутнасці". Не перастаю здзіўляцца тым адкрыццям, якія робяць вядучыя і іх суразмоўцы, тым паралелям, што праводзяцца падчас гэтай "размовы". Ну як не падзякаваць кандыдату гістарычных навук, а зараз, па словах вядучай, вядомаму беларускаму палітыку Сяргею Касцяну за тое, што ён адкрыў нам вочы і дапамог разгледзець, "хто ёсць ху" ў НАТА і па чыёй віне вядуцца бамбардзіроўкі Югаславіі. Аказваецца, ва ўсім вінаваты жыда-масоны на чале з Клінтанам, Саланай і Мадлен Олбрайт. Яшчэ больш цікавымі аказаліся вывады Віктара Кучынскага, спецпрадстаўніка Лукашэнкі. У адной з апошніх перадач ён вельмі эмацыянальна распавядаў пра тое, як суправаджаў гуманітарны груз у Югаславію. А на пытанне ўсхваляванага радыёслухача, навошта апазіцыя праводзіць выбары і калі ж гэта ўсё скончыцца, Віктар Францавіч з юнацкім запалам папярэдзіў апазіцыянераў, што "мы гэтага не дапусцім, што выбары пачнуцца ў свой час, тады і змагайцеся за ўладу". І ў доказ прывёў "яскравыя" прыклады: "Калі негры захочуць у ЗША стварыць Афрыканскія злучаныя штаты, ім не дазволіць зрабіць гэта ўрад. Ці вазьміце тую ж так званую дэмакратычную Германію. Там таксама не дазваляюць туркам, якіх пражывае вельмі многа, аддзяліцца ад Германіі і стварыць сваю дзяржаву". Што да чаго, якое дачыненне маюць нашы выбары да "Афрыканскіх злучаных штатаў", ні я, ні іншыя слухачы так і не зразумелі, і трэба толькі здагадвацца, а ці не параўноўваў Віктар Кучынскі становішча неграў у ЗША і туркаў у Германіі са становішчам беларусаў на Беларусі. Дык такое параўнанне не на карысць беларусаў. Негры ў ЗША маюць значна больш правоў і свабод.

Але больш за ўсё ўразіла мяне "размова", прысвечаная святу работнікаў радыё. Захацелася з першых вуснаў ( а вусны гэтыя належалі Уладзіміру Ядранцаву) пачуць пра перспектывы развіцця радыёвяшчання на Беларусі, пра цэнзуру, якая нібыта павук, аблытала ўсе афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку і радыё.

Свой выступ шэф радыё пачаў на расейскай мове "из уважения к ведущему". Тое, што па-за ўвагай засталіся ўсе слухачы – беларусы, яго нікольки не хвалявала. Сярод пытанняў, зададзеных У.Ядранцаву падчас прамога эфіру было і адно ад вельмі нярвовага пенсіянера: "Калі на беларускім радыё забароняць слова "спадар". Міжволі парадаваўся за гэтага сталага чалавека, у якога толькі і праблем, каб слова гэтае не дапусціць да мікрафона. А "товарищ" Ядранцаў між тым тлумачыў, што такі загад ён ужо аддаў, што "слово это не наше, не белорусское", і больш на радыё яно гучаць не будзе.

Відаць, дрэнна Уладзімір Ядранцаў вывучаў ва універсітэце навукі, інакш павінен быў бы ведаць, што слова "спадар" самае што ні ёсць беларускае. Яшчэ ў дапісьмовым праславянскім перыядзе вусным славянскім мовам быў вядомы корань: "спадар". Слова ж "гаспадар" у старабеларускай мове ўжывалася са значэннем "уласнік", "уладальнік" дома, маёнтка, а таксама "правіцель" у дачыненні да тытула Вялікага князя Літоўскага. Зафіксавана скарачэнне гэтага слова, дзе аснова скарачалася ў "осподар", а потым у "сподар". Сучасная форма "спадар" (як самастойная) стала вядома, "товарищ" Ядранцаў, ажно з ХУ стагоддзя, калі згодна з прынцыпамі беларускага правапісу, набыла адзін з іх – аканне. Слова хутка распаўсюдзілася ў жывой мове, аб чым сведчыць яго ўжыванне ў розных літаратурных помніках жанрава-стылявога характару.

А на пачатку ХУІІІ стагоддзя ў Баркалабаўскім летапісе, творы шырока вядомым, упершыню з'явілася і "спадарыня". Пры этымалогію слова "спадар" неаднойчы пісалі і В. Ластоўскі, і І.Насовіч. А вы хочаце гэтае слова забараніць? Ці не смешна!?

Дарэчы. Адкуль вушы растуць у гэтай забароны, мне добра вядома. У свой час да нас у Светлагорск прыязджаў тады яшчэ дэпутат Аляксандр Лукашэнка. Пасля гарачай прамовы хтосьці з залы звярнуўся да яго словамі: "Спадар Лукашэнка..." Будучы прэзыдэнт і народны заступнік скрывіўся нібыта ад зубнога болю: "Знаете, таварышчы, ня люблю я эта слова, ано какоя-та ня наша, ня нашым духам аддаёт". Вядома, што не па нутру пану - не падабаецца і чэлядзі.

Але ці варта так хвалявацца У.Ядранцаву і ўсёй гэтай кампаніі? Нікога з іх спадарамі нашчадкі не назавуць - не заслужылі. А слова гэтае перажыло стагоддзі, перажыве і цяперашнюю смуту.

*Мікалай Паседзька,*
*г.Светлагорск.*

# ЖЫВЕ, ГУЧЫЦЬ РОДНАЕ СЛОВА

Для кожнага народа яго родная мова самая мілагучная, самая блізкая і зразумелая. У нас адбіралі мову не раз, мы нават і не заўважылі, як пастунова перайшлі на расейскую, хоць і блізкую, зразумелую, але суседаву. Навучанне на роднай мове на Беларусі ажыццяўляецца ў спецыфічнай сітуацыі, якую можна ахарактарызаваць як расейска-беларускае двухмоўе.

Даўно вядома, што чалавек пэўнай нацыі павінен пачынаць вучобу на роднай мове і ў працэсе навучання далучацца да багацця нацыянальнай культуры.

Пачынаць лепш з ранняга дзяцінства – думка ні для кога не новая, але як пачынаць, з чаго? Над гэтым пытаннем мы ў сваім калектыве задумаліся яшчэ на пачатку 90-х гадоў і вырашылі, што рабіць гэта трэба з аналізу сваіх магчымасцяў. Іх у нас аказалася дастаткова, каб распачаць канкрэтную работу. Знайшліся выхавальнікі, якія нядрэнна ведаюць матчыну мову, някепска – народныя традыцыі, абрады. І мы захапіліся мовай, культурай, пачалі назапашваць розны матэрыял. У выніку ўтварылася своеасаблівае ядро — педагогі, якія склалі творчую групу ўстановы.

Нашы дзеці знаходзіліся ў складаным становішчы. Яны пачалі вывучаць родную мову, як замежную, а таму вучыліся больш розумам, а не праз творчую актывізацыю ўсяго багацця ўнутранага свету. У дзяцей не было дастаткова ведаў аб сваёй краіне, яе старажытным і сучасным. Таму мы паставілі мэту абудзіць цікавасць да свайго краю, да яго гісторыі, раскрыць перад імі старонкі Беларусі, увесці ў свет цікавы і родны. Асаблівую ўвагу звярнулі на выхаванне ў дзяцей цікавасці менавіта да роднай мовы, мастацтва, народнай творчасці, культуры. Усе выхавальнікі пачалі праводзіць выхаваўчую і навучальную работу на беларускай мове, лічачы, што нацыянальнае адраджэнне – патрыятычны абавязак. Заняткі старанна рыхтаваліся і праходзілі на асаблівай эмацыянальнай хвалі.

Напрыклад, на ўроках мастацкага чытання выкарыстоўваліся інсцэніроўкі. Мэта, якая дасягаецца пры гэтым, больш шырокая, чым праграмная: развіваць разуменне роднай мовы, яе выразнасць, эмацыянальнасць, спрыяць дыялогу дзяцей з выхавальнікам, выкарыстоўваючы беларускія выразы, словы, адказваць на пытанні, стварыць настрой вяселля, цікавасці да гульні з дарослымі, узбагаціць малых цеплынёй народнай паэзіі, спрыяць выхаванню добрых адносін і пачуццяў на прыкладзе станоўчага вобраза і г.д. Менавіта праз гэтыя нашы мерапрыемствы і прыйшла паступова ў дзіцячы садок родная мова.

Каб стварыць адзінае моўнае асяроддзе, наладжана пераемнасць у рабоце дашкольнай установы і сям'і. З бацькамі праводзіліся гутаркі, сумесныя сходы, святы. Мамы і таты згадзіліся, каб выхаванне і навучанне ішло на беларускай мове, а затым пераканаліся, што мы выбралі правільны кірунак. Яны сталі дапамагаць, самі стараюцца размаўляць па-беларуску, наладзілі з выхавальнікамі кантакт. Тут хачу асабліва падкрэсліць два асноўныя аспекты: працэс адраджэння роднай мовы, культуры зблізіў бацькоў і педагогаў менавіта ў выхаванні дзяцей. Ён стаў своеасаблівым каталізатарам цікаўнасці да нацыянальнага.

Усе супрацоўнікі ясляў-садка таксама размаўляюць па-беларуску. Дапамагае і створаны ў нас клуб "Спадчына", дзе ўдзельнікі (дарослыя і дзеці) знаёмяцца з роднай культурай, мастацтвам, літаратурай, фальклорам, беларускамоўнай перыёдыкай, выступаюць са сваёй праграмай у мясцовым Доме культуры.

Мы імкнёмся развіваючы індывідуальныя творчыя здольнасці дзяцей, прадаўжаць узбагачаць іх уяўленні аб роднай Беларусі.

Радуе, што ў дзіцячым садку ўжо ёсць досвед работы ў гэтым кірунку. Сваімі напрацоўкамі мы ахвотна дзелімся з іншымі дашкольнымі ўстановамі раёна. На працягу сямі гадоў на базе дзіцячага садка працуе раённае метадычнае аб'яднанне "Родная мова". З мэтай абмену досведам два разы ў год праходзіць пасяджэнне пошукавай групы. У рабоце з дзецьмі выкарыстоўваем розныя формы. Для выхавальнікаў раёна таксама правялі шэраг мерапрыемстваў: "Вандраванне ў краіну казак", вусны часопіс "Беларускія пісьменнікі – дзецям". "Вечар народнай творчасці", гасцёўня "Заранaчка", "Падарожжа ў краіну мовазнавію", "Граматычны кірмаш", гульня – віктарына "Літаратурная скарбонка роднага краю", "Конкурс спевакоў", фальклорнае свята "Матчына песня", свята, прысвечанае беларускай кнізе "Мову родную і край свой любіце", занятак "Уваходжання ў карціну", КВЗ, святы "Гуканне вясны", "Каляды", "Вячркі", "Саракі" і інш.

У сваім садку стараемся ствараць спецыяльнае і жыццядзейнае асяроддзе для работы па вывучэнню фальклору і багатых нацыянальных традыцый.

Каб забяспечыць дыферэнцыраваны падыход да выхавання дзяцей, пэўнае значэнне надаём гуртковай рабоце. Яна спрыяе развіццю дзіцяці, выхоўвае ў яго пачуццё дружбы, таварыскасці, калектывізму. Многія выхавальнікі цікава арганізуюць работу са сваімі выхаванцамі, адносяцца да яе творча, індывідуальна.

Да ліку такіх адносяцца І.І.Шундрык, якая шмат гадоў запар узначальвае студыю дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Дзеці любяць займацца з Інай Іванаўнай. Яны бачаць вынікі сваёй працы ў цацках, якія вырабляюць сваімі рукамі. Імі потым любуюцца і дзеці і дарослыя не толькі нашага садка, але і ўсяго раёна. Вялікую ўвагу выхавацель надае лепцы менавіта беларускай цацкі, як аднаму з найцудоўнейшых відаў народнага побыту і мастацтва.

Адзін з кірункаў у выхаваўчай рабоце выхавацельніцы Ганчарук З.А. – знаёмства дзяцей з саломкай. У афармленні групы пераважае нацыянальны стыль. Шмат пано і кампазіцый зроблена з саломкі. Зінаіда Аляксееўна вядзе паглыбленую работу па вывучэнню народных промыслаў і рамёстваў. На такіх занятках дзеці бачаць, як з простага матэрыялу можна зрабіць рэчы дзівоснай прыгажосці.

Сябрамі прыроды выхоўвае сваіх выхаванцаў Л.У.Бялятка. Шмат намаганняў прыкладае, каб пашырыць кругагляд дзяцей, узброіць іх ведамі аб наваколлі, родным краі, прыродзе. Дзеці вучацца назіраць за раслінамі, птушкамі, жывёламі, бачыць свет добрага і прыгожага.

Досвед работы Бялятка Людмілы Уладзіміраўны па экалагічнаму выхаванню абагульнены ў нашай дашкольнай установе.

Прывіваюць любоў да беларускай мовы, як асноўнага элементу нацыянальнай культуры, выхавальнікі Бонда В.А., Лагуцік Л.Т. Гэтую справу яны паспяхова ажыццяўляюць праз знаёмствы дзяцей з лепшымі ўзорамі вуснай народнай творчасці: пацешкі, забаўлянкі, калыханкі, казкі, загадкі,гульні, легенды. Пры дапамозе іх перадаюцца дзецям духоўныя скарбы народа. Яны шырока выкарыстоўваюць народную фразеалогію, прыказкі, прымаўкі, таму што гэта складае залаты фонд беларускага фальклору, дзе выкарыстоўваецца мудрасць беларускага народа, яго гісторыя, жыццё.

Выхавальнікі старэйшых груп Таболіч А.А., Рэгіневіч А.П. таксама лічыць, што мова – гэта галоўны сродак выхавання дзіцяці. Праз мову тут далучаюць дзяцей да чароўнага свету мастацтва, музыкі, вучаць усяму. Яны робяць усё магчымае, каб дзеці палюбілі родную мову, мову Беларусі, мову сваёй Рэспублікі.

Пад кіраўніцтвам музычнага работніка Францішчык Т.П. дзеці займаюцца музычна-тэатральнай дзейнасцю. Выхаванцы старэйшых груп паказваюць дашкольнікам інсцэніроўкі казак. Спектаклі, у якіх удзельнічаюць дзеці, добра ўплываюць на агульны настрой усяго калектыву, робяць жыццё выхаванцаў больш радасным і цікавым. Беларускія народныя песні, музычныя інсцэніроўкі, ігра на музычных інструментах – усё гэта шырока выкарыстоўваецца на ўсіх святах і забавах, спартыўных мерапрыемствах, канцэртах для бацькоў, ранішніках, на музычных занятках і ў вольны час прывіваецца цікавасць да фальклору, да беларускай культуры, народных традыцый і абрадаў, свят, гульняў.

Відавочна святы, кірмашы, іншыя мерапрыемствы патрабуюць немалой падрыхтоўкі, але і вынік радуе. Таму і скіроўваем мы ўвагу на тое, што складае душу нашага народа, яго славянскую самабытнасць, вусна-паэтычныя традыцыі. Працэс, безумоўна, складаны, але абсалютна рэальны. Нашы напрацоўкі і рэальныя вынікі яшчэ раз пераконваюць нас у гэтым. Таму мы працуем з аптымізмам. А асновай гэтаму з'яўляецца досвед і майстэрства нашых выхавальнікаў, жаданне працаваць, выхоўваць дзяцей добрымі людзьмі сродкамі мовы, культуры, традыцый.

І мы ўсе вельмі любім дзяцей, таму кожны дзень ідзём на працу з добрым настроем.

Радасць дзіцяці, яго эмацыянальны дабрабыт – аснова яго развіцця. Таму стараемся, каб гэтая радасць не пакідала наш дзіцячы садок.

*Г. Аблажэй,*
*загадчыца Казлоўшчынскага ясляў-саду,*
*кіраўнік раённага метадычнага аб'яднання*
*"Родная мова",*
*Дзятлаўскі раён Гарадзенскай вобласці.*

